www.nv-online.info

№ 67 (3910)

29 жніўня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РЭТУШЫ



*Валерый КАРБАЛЕВІЧ*

## Як запаліць люльку міру

**Як і прагназавалася, сенсацыі на перамовах у Мінску не адбылося. Калі не лічыць сенсацыяй сам факт правядзення такога саміту, сустрэчы сам-насам Пуціна і Парашэнкі, Лукашэнкі і Эштан.**

**Якраз напярэдадні мінскага саміту сепаратысты на ўсходзе Украіны перайшлі ў наступленне. Што павінна было ўзмацніць пазіцыі Пуціна.**

**Таксама перад сустрэчай у Мінску адбыўся візіт у Кіеў канцлера Германіі Ангелы Меркель. Гэта была дэманстратыўная падтрымка Украіны, што, паводле вонкавай логікі, павінна было даць дадатковыя і моцныя карты Парашэнку. Але тут ёсць адзін нюанс. Меркель настойліва падштурхоўвала афіцыйны Кіеў да мірнага вырашэння канфлікту на ўсходзе Украіны, то бок — да кампрамісу і саступак.**

**Таму расклад перад перамовамі ў Мінску быў такі. Пуціна задавальняе сітуацыя захавання статус-кво на ўсходзе Украіны, ён можа пачакаць. А Парашэнку, наадварот, трэба ў максімальна кароткія тэрміны нейтралізаваць нейкім чынам гэты ваенны ачаг. Бо ціснуць і эканоміка, і Еўропа, і салдацкія маці.**

**Розныя зыходныя пазіцыі абумовілі і розную тактыку кіраўнікоў Украіны і Расіі. Парашэнка перад самітам усяляк падкрэсліваў, што ён едзе ў Мінск дамаўляцца пра мір на ўкраінскім усходзе. І падчас саміх перамоў ён падкрэсліваў, што галоўнае пытанне — гэта ўсталяваць кантроль за расійска-ўкраінскай мяжой. Па выніках жа сустрэчы з Пуціным прэзідэнт Украіны адзначыў, што яны абмяркоўвалі пытанне закрыцця мяжы, дамовіліся пра кансультацыі начальнікаў генеральных штабоў дзвюх краін, кантактная група будзе абмяркоўваць спыненне агню на ўкраінскім усходзе. То бок гэта была дэманстрацыя курсу на замірэнне.**

**Пуцін жа, наадварот, выразна паказваў, што тэма ўрэгулявання ваеннага канфлікту яго не цікавіць. Падчас перамоў ён спецыяльна сканцэнтраваў сваё выступленне на гандлёвых праблемах паміж краінамі Мытнага саюза і Украінай у звязку з падпісанай Кіевам дамовай аб асацыяцыі з ЕС. Каментуючы вынікі сустрэчы з Парашэнкам, Пуцін толькі ўскосна заявіў, што яны абмяркоўвалі пытанне спынення агню на ўкраінскім усходзе…**

**Зразумела, што пры такіх падыходах дасягнуць нейкага кампрамісу па галоўным пытанні было немагчыма. Люлька міру не запальваецца.**

**Спадзявацца на тое, што за дзве гадзіны прэзідэнты Расіі і Украіны дамовяцца пра мір, было б вялікай наіўнасцю.**

**Перад пачаткам саміту я, прагназуючы яго магчымыя вынікі, адзначаў, што выдатным плёнам сустрэчы ў Мінску і вялікім прагрэсам было б стварэнне, так бы мовіць, інфраструктуры перамоўнага працэсу. Гэта значыць фарміраванне нейкіх экспертных, працоўных груп па розных пытаннях, якія працягвалі б працу ў Беларусі.**

**І калі ацэньваць саміт з гэтага пункту погляду, то яго нельга назваць безвыніковым, як некаторыя сцвярджаюць.**

**У выніку Мінскага саміту дасягнута дамоўленасць, што ствараецца рабочая група па гандлёвых пытаннях. 6 верасня адбудуцца перамовы па энергетычных пытаннях з удзелам міністраў паліва і энергетыкі Украіны, Расіі і ЕС. Затым працягнуцца пасяджэнні трохбаковай кантактнай групы (РФ — Украіна — АБСЕ) па гуманітарных пытаннях ваеннага канфлікту. І анансаваныя кансультацыі начальнікаў генеральных штабоў. Зусім нямала для першага разу.**

**І, як можна зразумець, усе гэтыя перамовы пройдуць у Беларусі. Беларуская сталіца пэўны час будзе заставацца ў цэнтры ўвагі сусветных медыяў. З усімі станоўчымі наступствамі для іміджу краіны і яе кіраўніцтва. Лукашэнка працягвае атрымліваць дывідэнды ад сваіх міратворчых высілкаў. Толькі не зразумела, гэта дывідэнды міру ці дывідэнды вайны.**

SOS!

## Ялінка Салаўёва па-ранейшаму адзіная беларускамоўная вучаніца ў Магілёве

***1 верасня ў гэтым абласным цэнтры не адкрыецца ніводны беларускамоўны клас, тым больш — школа. І толькі Ялінка Салаўёва, якая пайшла ў пяты клас, будзе навучацца на роднай мове.***

*— Мы за Ялінку ўсёй школай перажываем*, — кажа першая настаўніца адзінай беларускамоўнай вучаніцы Магілёва **Наталля Аляксандраўна Аржанава.** — *Гэта вельмі складана — вучыцца ў адзіноце, Ялінка хоча да дзяцей. Але не знайшлося ў горадзе ніводнага пяцікласніка, які пайшоў бы ў беларускамоўны клас. Што, канешне, зразумела. Калі дзіця навучалася чатыры гады па-руску, яму складана перайсці на цалкам беларускамоўнае навучанне. Я маліла Бога, каб якая-небудзь сям'я з дзіцем — равеснікам Ялінкі пераехала ў Магілёў з вёскі, там усё ж такі яшчэ засталіся беларускія школы. Не атрымалася...*

*Сітуацыя з беларускамоўным навучаннем ў Магілёве па-ранейшаму катастрафічная. Былі спадзяванні, што можа, сёлета хоць адзін першы беларускамоўны клас адкрыецца ў горадзе. Я прапаноўвала, так бы мовіць, свае паслугі, гатова была стаць першай настаўніцай для такіх дзетак і ездзіць у любы куток Магілёва іх вучыць. Таксама не атрымалася. Не хочуць бацькі аддаваць дзяцей у беларускія класы. Не ведаю, якія яшчэ прыводзіць аргументы на карысць роднай мовы. Колькі я сама гутарак з бацькамі праводзіла! Бацькі Ялінкі ладзілі вулічныя акцыі, улёткі на школьных кірмашах раздавалі. На мясцовым тэлебачанні запусцілі ролік, каб паказаць перавагі беларускамоўнага навучання. І нічога. Цішыня...*

*А што тычыцца Ялінкі, ужо вызначаны класны кіраўнік, ёсць выкладчыкі. Кодэкс аб адукацыі гарантуе ёй права вучыцца па-беларуску, і школа ўсё для гэтага робіць.*

Маці Ялінкі Надзея Салаўёва кажа, што пытанняў да школы, дзе вучыцца дачка, у іх сям'і няма. А вось што тычыцца чыноўнікаў ад адукацыі Магілёва, то, на яе думку, ад іх шмат чаго залежыць.

*— Я мяркую, што гэта ў іх кампетэнцыі хаця б адкрыць у горадзе беларускамоўны першы клас, каб дзеці з 6 гадоў пачалі вучыцца па-беларуску*, — кажа Надзея. — *Але ніхто нічога ў гэтым накірунку не робіць. Ніхто не зацікаўлены...*

*Ялінка будзе вучыцца па-беларуску. Я разумею, што ёй у адзіноце цяжка, хочацца быць у калектыве. Кажа: "Мне хоць бы аднаго вучня побач..." Так ёй падабалася летам у лагеры, сярод дзяцей... Але ўсё ж такі мы вырашылі, хай паспрабуе і надалей вучыцца хоць і адна, але на роднай мове. Школа, што тычыцца тэхнічнай падрыхтоўкі, усё прадаставіла — і клас ёсць, і класны кіраўнік, і настаўнікі, і падручнікі... Толькі дзяцей няма...*



ТЫМ ЧАСАМ

*Анатоль ТОЗІК:*

## «Валоданне роднай мовай — паказчык нашай культуры»



Днямі намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік наведаў СШ №40 горада Магілёва. Як перадалі афіцыйныя СМІ, ён азнаёміўся з арганізацыяй адукацыйнага працэсу ў гэтай навучальнай установе. Падчас наведвання школы Анатоль Тозік звярнуў увагу на неабходнасць папулярызацыі і больш шырокага выкарыстання ва ўстановах адукацыі беларускай мовы.

*"Валоданне роднай мовай — паказчык нашай культуры, самаідэнтыфікацыі як нацыі. На мой погляд, усе выкладчыкі без выключэння павінны валодаць беларускай мовай, і, калі ў класе ёсць хоць бы адзін вучань, які мае зносіны на беларускай, то і педагог павінен адказваць яму на роднай мове".*

Залатыя словы, Анатоль Афанасьевіч! Але атрымліваецца, што толькі словы, а не справы — высілкі чыноўнікаў па вырашэнні праблемы беларускамоўнага навучання ў краіне хутчэй віртуальныя, чым рэальныя... Бо калі б чыноўнікі па-сапраўднаму імкнуліся папулярызаваць беларускую мову, то ў Магілёве, дзе жыве 375 тысяч чалавек, 87% з якіх паводле перапісу 2009 года — беларусы, на роднай мове навучалася б не адна Ялінка Салаўёва.

Дарэчы, яшчэ не позна дапамагчы Ялінцы Салаўёвай. Няўжо, Анатоль Афанасьевіч, вашы словы застануцца пустым гукам?

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ГРАШОВАЕ ПЫТАННЕ

## Ці паскорыцца дэвальвацыя рубля?

*Нацыянальны банк Беларусі адмяніў абмежаванні па аб'ёму куплі-продажы валюты на біржы. Ці ажывіць гэтая мера беларускую эканоміку? І як адаб'ецца на курсе беларускага рубля?*

Абмежаванні на максімальныя сумы па куплі-продажы валюты на біржы знялі да 1 студзеня 2017 года, аднак новыя правілы не распаўсюджваюцца на аперацыі з фізічнымі асобамі.

У адпаведнасці з пастановай Нацбанка № 508, абавязковым рэквізітам заявак на пакупку валюты на біржы зараз *"з'яўляецца максімальны курс куплі замежнай валюты, па якім гэтыя заяўкі могуць быць выкананы".*

— Я катэгарычна не казаў бы, што гэтая мера вельмі ўжо ажывіць беларускую эканоміку, — кажа фінансавы аналітык афіцыйнага партнёра кампаніі "Альпары" ў Мінску **Вадзім ЙОСУБ**. — Але тут можна пры жаданні ўбачыць сігнал да таго, што праз нейкі час валютны рынак стане менш рэгулюемым. Адпаведна змена курсаў валют у большай ступені будзе залежаць ад попыту і прапановы, а не ад таго фіксаванага рэжыму, у якім існуе сёння. Мы ж бачым, што зараз долар расце не больш за 10 рублёў за таргі. Так што хутчэй за ўсё нейкія планы па лібералізацыя рынку ёсць, і вышэйназванае рашэнне — першая ластаўка, якая пацвярджае існаванне такіх планаў.

**— У сувязі з гэтым ці не паскорыцца дэвальвацыя беларускага рубля?**

— Безумоўна, паскорыцца, калі адменяць жорсткае рэгуляванне курса долара. Хоць у нейкія месяцы пад уздзеяннем попыту і прапановы рубль можа і ўмацоўвацца. Сёння, як я ўжо казаў, долар стабільна і прадказальна расце кожны месяц. Пры гэтым, па звестках Нацбанка, у ліпені было прададзена валюты ўсімі ўдзельнікамі валютнага рынку больш, чым куплена. Такім чынам, ва ўмовах рыначнага цэнаўтварэння у мінулым месяцы беларускі рубель умацаваўся б. Але на самай справе мы бачым, што гэтага не адбылося.

**— Значыцца, працягнецца плаўная дэвальвацыя?**

— Пакуль што — так, і не факт, што яе адменяць у бліжэйшы час. Але, паўтаруся, адмена абмежаванняў па аб'ёму куплі-продажы валюты на біржы дае надзею, што лібералізацыя ў недалёкім будучым усё ж такі адбудзецца.

**Алесь СІВЫ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

*Светлана ЗАВАДСКАЯ:*

## «Люди, которые не дали Диме вырастить сына, до сих пор не понесли наказания...»

***Вчера, 28 августа, телеоператору Дмитрию Завадскому исполнилось бы 42 года.***

*"Каким бы он был в этом возрасте, чего бы добился... Мы уже никогда не узнаем*, — говорит **Светлана Завадская**, вдова журналиста, который был насильственно похищен более 14 лет назад. — *Он не дожил до своего 28-го дня рождения, и всегда останется в нашей памяти молодым, красивым, жизнерадостным, любящим человеком...*

*Хочу напомнить, что люди, которые не дали ему вырастить сына и осуществить свои жизненные планы, до сих пор не понесли наказания".*

Напомним, что Дмитрий Завадский был похищен неизвестными по дороге в аэропорт. По факту исчезновения Дмитрия вначале было возбуждено уголовное дело по статье "*убийство*", однако затем обвинение переквалифицировали на *"похищение и незаконное лишение человека свободы"*. Весной 2002 года Минский областной суд признал виновными в похищении Завадского офицеров спецподразделения МВД "Алмаз" **Валерия Игнатовича** (приговорен к пожизненному заключению) и **Максима Малика** (осужден на 25 лет лишения свободы). Тело Дмитрия Завадского до сих пор не найдено и что случилось после похищения — не ясно.

Сейчас расследование по этому делу не ведется — оно приостановлено с 2006 года!

— *С тех пор ни разу расследование дела не возобновляли*, — напомнила "Народной Воле" Светлана Завадская. — *Самое ужасное, что когда дело приостановлено, ты не имеешь права обращаться к следователям с ходатайством о допросе кого-то, о проверке каких-то обстоятельств. Возобновить дело могут только тогда, когда выяснятся новые факты. Когда расследование приостановлено, оперативные сотрудники могут проводить лишь розыскные мероприятия.*

*Я, кстати, обращалась в МВД с просьбой разъяснить, какие именно розыскные мероприятия они проводят, сотрудничают ли с какими-то зарубежными органами. Мне, как обычно, прислали совершенно пустой ответ: мол, когда появятся какие-то новые данные, мы вас об этом проинформируем.*

*Еще я удивлена, что не ведется никаких мероприятий с теми, кто осужден за похищение Димы. Эти люди больше 10 лет находятся в тюрьме, и, зная, как в нашей системе выбиваются показания из заключенных (некоторые даже оговаривают себя), меня поражает, что они до сих пор не назвали какие-то конкретные фамилии причастных. Если допустить, что тот же Игнатович на самом деле выполнил чей-то приказ о похищении Димы, то почему до сих пор не выдал людей, которым затем передал Диму? Как такое может быть?.. На мой взгляд, ни Игнатович, ни Малик просто знать ничего не знают, на них просто повесили это обвинение, поэтому с ними сейчас и не работают дальше.*

*Все, что можно было сделать с точки зрения закона с нашей стороны, мы сделали. Куда еще обращаться, откуда просить помощи — честно говоря, я не знаю... Должна быть политическая воля со стороны властей назвать имена преступников. И я уверена: если бы в этом деле не были замешаны высокопоставленные лица нашего государства, то оно уже давным-давно было бы раскрыто. Власть надеется, что уже столько лет прошло с момента похищений и все уже забыли о громких исчезновениях* ***Дмитрия Завадского, Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского.*** *Поэтому я бесконечно благодарна тем, кто помнит.*



**Дмитрий Завадский с сыном Юрием много лет назад…**

**Марина КОКТЫШ.**

ТРАГІЧНАЯ ЗАГАДКА

## Барысаўская «снайперша» больш не будзе забіваць украінцаў?

У сацыяльных сетках з'явілася інфармацыя аб тым, што дзяўчына з Барысава **Наталля КРАСОЎСКАЯ**, якая ваявала супраць украінскай арміі на баку тэрарыстаў, была забіта пад Яленаўкай. Адбылося гэта 26 жніўня.

Кіраўнік МУС Украіны **Антон ГЕРАШЧАНКА** ў сваім блогу паведаміў: "*Паўрота байцоў "Шахцёрска" разам з узводам байцоў спецбатальёна міліцыі "Днепр-1" пры падтрымцы некалькіх адзінак бронетэхнікі 51-й механізаванай брыгады, пад агульным кіраўніцтвам Руслана Анішчанкі, правяла разведвальна-дыверсійную аперацыю ў раёне блокпаста на трасе Данецк—Марыупаль у раёне сяла Яленаўка, што прыкладна ў 20 км ад Данецка. Мэтай аперацыі было перашкодзіць прарыву групы баевікоў колькасцю каля 50 чалавек на некалькіх КраАЗах, "Уралах", КамАЗах праз блокпост Яленаўка. У выніку добра зладжаных і рашучых дзеянняў спецбатальёна міліцыі і армейцаў тэрарыстам быў нанесены сакрушальны ўдар*".

Антон Герашчанка размясціў фатаграфіі з месца падзеі, каб сваякі маглі апазнаць забітых. На адной з іх — дзяўчына ў вайсковай форме, падобная на Наталлю Красоўскую. Пакуль гэта фатаграфія з'яўляецца адзіным сведчаннем таго, што снайперша загінула. Кіраўнік МУС Украіны напісаў, што ніякіх дакументаў пры забітых не было. Ён мяркуе, што загінулі не кадравыя расійскія вайскоўцы, а хутчэй за ўсё байцы так званай ДНР ці расійскія наёмнікі.

Раней інфармацыя аб тым, што маладая дзяўчына з Барысава паехала ў зону баявых дзеянняў, каб ваяваць на баку сепаратыстаў, ускалыхнула інтэрнэт. Красоўская паведаміла, што прыехала на Данбас 5 мая. Ужо 7-га яна атрымала вінтоўку, потым аўтамат, якіх яна называла чалавечымі імёнамі. На апошнім відэа Наталля Красоўская з усмешкай казала, што даслужылася да снайпера і нічога не мае супраць, каб яе лічылі і называлі забойцам. Яна распавяла расійскім карэспандэнтам "Комсомольской правды", якія бесперашкодна працавалі ў зоне, захопленай расійскімі вайскоўцамі, што ў Барысаве да яе маці падыходзілі супрацоўнікі КДБ і казалі, што Наталлі пагражае зняволенне да 10 гадоў. Але, відаць, дзяўчыну гэта асабліва не палохала. На сумленні барысаўчанкі жыцці многіх украінскіх салдат, якіх адправілі вызваляць захопленую тэрыторыю.

Дык усё ж такі Наталля Красоўская на здымках, якія растыражыравалі СМІ? Мы вырашылі знайсці адказ на гэтае пытанне ў Барысаве.

Адшукаць бацькоў Наталлі не ўдалося. Вядома толькі, што дзяўчына жыла на вуліцы Трусава, дзе стаяць шматпавярховікі.

"*Пра снайпершу чытаў. З інтэрнэта ведаю, што яна жыла тут на Трусава, але вуліца гэта даволі вялікая, аж да Печаў даходзіць. Я сам, мае хатнія і знаёмыя — усе абураны. Як такое магло здарыцца?! Што там за сям'я?! Чаго яна туды паехала?!! Загінула? Не, пра гэта нічога яшчэ не чуў. Але... Што павінна было адбыцца, тое і адбылося*", — кажа адзін з маіх суразмоўцаў Павел Ляхновіч.

Паход па школах вынікаў таксама не даў. Красоўскую спрабавалі знайсці па журналах выдачы атэстатаў. У пятай па ліку школе, якую я наведала, — у СШ № 2 дырэктару падчас размовы са мною патэлефанавалі з Барысаўскага аддзела адукацыі і забаранілі даваць хоць якую-небудзь інфармацыю. Дырэктар параіла мне звярнуцца з афіцыйным запытам. Не выключана, што менавіта ў гэтай школе і вучылася Наталля Красоўская.

У Барысаўскім міжрайаддзеле Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці інфармацыю пра гібель Красоўскай не пацвердзілі і не абверглі, але параілі асабліва не давяраць інфармацыі ў інтэрнэце. У любым выпадку на асабістай старонцы Наталлі Красоўскай ніякай новай інфармацыі не з'явілася.

У адным з інтэрв'ю Наталля Красоўская перадавала прывітанне свайму бацьку і казала, што калі вернецца ў Барысаў, то яны вып'юць гарэлкі, як два мужыкі. Цяпер, відаць, бацька вып'е гарэлкі адзін і з іншай нагоды.



**Любоў ЛУНЁВА.**

ВАКАНСІІ

## Беларускі клуб біятлона шукае трэнера на заробак 80 мільёнаў у месяц

*Патрабаванні да кандыдатаў: веданне англійскай мовы і вопыт працы на міжнародных спаборніцтвах ад 10 гадоў.*

Беларускі клуб біятлона, заснавальнікам якога з'яўляецца Беларуская федэрацыя біятлона, у базе вакансій Мінгарвыканкама і Міністэрства працы і сацыяльнай абароны размясціў вакансію спартыўнага трэнера. У абвестцы пазначаецца, што заробак у трэнера будзе ад 80 мільёнаў рублёў у месяц.

Патрабаванні да кандыдатаў: веданне англійскай мовы і вопыт працы на міжнародных спаборніцтвах ад 10 гадоў.

Праўда, у самім клубе ўдакладняюць, што беларусы на гэтую пасаду прэтэндаваць не могуць. Гэта вакансія для замежных трэнераў, якія будуць працаваць з нацыянальнай камандай. Цікавы падыход, не праўда? І тут мы горшыя за іншых...

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# «Цэннікі на свініну мы перапісваем па некалькі разоў на тыдзень...»

*Напярэдадні лета Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў забяспечыць насельніцтва свінінай: "Што за праблема? Гэта ж не быка выгадаваць, што яму трэба 18 месяцаў. Гэта на працягу года можна аднавіць пагалоўе. І мы пра гэта дамовіліся. Вы ж бачыце, што людзі бегаюць: дай свініны, дзяцей карміць няма чым".*

*Праблема тады сапраўды існавала — свініна на нейкі час знікла з паліц беларускіх крамаў і рынкаў. Дэфіцыт "скваркі" узнік пасля таго, як у некаторых рэгіёнах краіны былі выяўлены ачагі афрыканскай чумы, што падкасіла жывёлу. Даходзіла да таго, што ў барацьбе з вірусам пагалоўе свіней папросту знішчалася, як на фермах і агракомплексах, так і на прыватных падворках .*

*Трэба адзначыць, што зараз сітуацыя палепшылася. Пагалоўе аднаўляецца і — у рэшце рэшт — свініну ў крамы далі. Але якой якасці? І галоўнае — па якіх коштах? Карэспандэнт "Народнай Волі" наведаў некаторыя сталічныя магазіны, з тым каб зрабіць своеасаблівы маніторынг коштаў на свініну. Вось што з гэтага атрымалася.*



У краме з красамоўнай назвай **"Пятачок",** што на вуліцы Калініна, днём у аўторак выбар мяса свініны быў зусім невялікі. Пакупнікам прапаноўваўся толькі свіны паўфабрыкат для адбіўных, коштам у 140.000 рублёў за кілаграм. На вітрыне ляжалі два апошнія кавалкі, а гандлярка мяне запэўніла, што перабояў з пастаўкай свініны іх крама не ведае. Свініну прывозяць заўжды і кошты ў іх на ўзроўні тых, што ёсць у іншых гарадскіх магазінах.

Наступнай кропкай "свінога" рэйду стала крама **"Генералмаркет",** што ў раёне парка Чалюскінцаў. Тут выбар свініны куды лепшы, чым у папярэдняй кропцы. Праўда, чаргі ў мясны аддзел ізноў-такі няма. Калі прыглядаюся да цэннікаў, разумею чаму. Кошты за кілаграм наступныя: свіная лапатка — 94.900 рублёў, тазасцегнавая частка па такім жа кошце, шыя — 124.500, паўфабрыкат для адбіўной — 112.900, набор для булёну (умоўна кажучы косткі з налётам мяса. — **Аўт.**) 15.900, ну і голыя свіныя косткі тут можна набыць усяго за 500 рублёў.

А вось у "**Рублёўскім",** што на Талбухіна, 4, свініны не бывае ўвогуле: "*Мы проста яе не заказваем, таму нам і не прывозяць. Крама аддае перавагу таму, што больш запатрабавана ў пакупніка, — курыным паўфабрыкатам і фаршу*", — расказвае прадаўшчыца.

Як вядома, у беларускай сталіцы хапае так званых спецыялізаваных мясных крамаў. Адна з іх — мясная кулінарыя **"Гурман"** знаходзіцца на вуліцы Леніна, 16. У будні дзень адзіным яе наведвальнікам стаў аўтар гэтых радкоў. Свіную лапатку тут рэалізоўвалі па 117 тысяч 900 рублёў за кіло, кілаграм паляндвіцы на костачцы — 143 тысячы, а свіная "паджарка" каштавала 73 тысячы рублёў.

У гіпермаркеце **"Карона"** на Кальварыйскай ажыятажу ў мясным аддзеле таксама няма. Асартымент, па шчырасці, уражвае. Цэны, што называецца, плюс - мінус у параўнанні з іншымі сталічнымі крамамі. Вось "свіны" прайс гіпермаркета: кіло лапаткі каштуе 112.900, тазасцегнавая частка таксама 112.900, шыя — 165.900, паўфабрыкат для адбіўной — 144.900, рулька 39.900. Мяса свежае, бо ў некаторых гіпермаркетах, напрыклад, "Бігсе" часта прапаноўваюць свініну замарожаную і па такіх жа высокіх коштах, як на свежае мяса...

Апошняй кропкай рэйду стаў візіт на **Камароўскі рынак**. Менавіта тут можна набыць мяса танней, чым у гарадскіх магазінах. Днём (акцэнт на час раблю наўмысна. - **Аўт.)** кіло лапаткі аддавалі за 80 тысяч, за кілаграм шыі прасілі 120 тысяч. Шчыра кажучы, у адрозненне ад крамаў выбраць было з чаго. Не таму што мяса ў сталічных магазінах дрэннае, а таму што на рынку, як на рынку — прапанова перавышае попыт.

— *Людзей зусім няма*, — прызнаецца мая суразмоўца, індывідуальны прадпрымальнік **Алена Аглоблева**. — *Ведаеце, свініна ў нейкім сэнсе стала далікатэсам для беларусаў. Купляюць менш, многія індывідуальныя прадпрымальнікі раз-пораз працуюць сабе ва ўрон. Зранку, напрыклад, за лапатку можна было прасіць і 100 тысяч, наплыву няма, таму зараз аддаю за 80. Зараз вось тры гадзіны дня, калі і праз дзве гадзіны ніхто не купіць, кошт яшчэ знізіцца. Хочацца верыць, што да гэтага не дойдзе, але ж самі разумееце, мяса такі прадукт, які трэба хутка рэалізоўваць...*

Прадпрымальніца прызнаецца, што цэны на мяса падымаюцца па некалькі разоў на тыдзень.

— *Мы перапісываем цэннікі па 2—3 разы на тыдзень,* — расказвае прадпрымальніца. - *Здаецца, нязначна, па тысячы, дзве, але гэта робіцца пастаянна. Да таго ж на "Камароўцы" свае законы. Я не маю права на асабістае рашэнне аб цэнах. Працей кажучы, трэба прытрымлівацца карпаратыўнай салідарнасці, калі гандляры вырашылі, што кіло лапаткі вось тут у гэтую хвіліну каштуе 80 тысяч, то так яно і будзе, можаце хадзіць, даведвацца, але танней ці даражэй вы гэта мяса не купіце.*

*Апошнім часам шмат маіх калег проста скончылі займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю, не вельмі выгадна гэта. Толькі арэнда гандлёвага месца з вітрынай-халадзільнікам каштуе 4 мільёны 300 тысяч у месяц, а яшчэ падатак... У многіх таму і павышаюцца кошты...*

## *А як у суседзяў?*

З беларускімі коштамі на свініну ўсё больш-менш зразумела. А па якіх коштах мяса купляюць, напрыклад, у Польшчы? Ва Украіне?

Тэлефаную сябрам у Львоў. Аказваецца, што ва ўцягнутай у ваенны канфлікт Украіне, эканамічнае становішча якой пакідае жадаць лепшага, кошты на свініну значна ніжэйшыя, чым у Беларусі. Сябры перапісваюць кошты на свініну, якія былі вечарам 26 жніўня ў львоўскім маркеце "Сільпо" (аналаг беларускага "Еўраопта". — **Аўт.**). Там кілаграм лапаткі прадавалі за 57 грывен (курс долара — 13,3 грыўны). Гэта ў 2—2,5 раза танней, чым у Мінску. Кіло свіной шыі каштавала 73 грыўны, што таксама ў два разы танней, чым на мінскай "Камароўцы".

У выхадныя суседка ездзіла "на закупы" ў польскі Беласток. Немагчыма нават паверыць, але там у гіпермаркеце "Auchan" кілаграм свежай шыі каштаваў на нашы грошы 55 тысяч! Кілаграм лапаткі — 30 тысяч. На мяжы беларускія памежнікі не дазвалялі ўвозіць у Беларусь свініну. Казалі, што з-за афрыканскай чумы зараз аб'яўлены каранцін. Але мая суседка ўсё ж такі некалькі кавалкаў схавала і правезла. А ўвечары ў панядзелак запрасіла нават і мяне на смачны свіны гуляш... Седзячы за сталом, мы разважалі: адкуль у нашых крамах такія кошты? Можа, беларускія свінні вырошчваюцца па нейкай асаблівай дарагой тэхналогіі? Нашы парсючкі харчуюцца "залатым" кормам? А можа, беларуская эканоміка стварыла для фермераў і прадпрымальнікаў такія ўмовы, пры якіх мяса проста не можа быць таннейшым?..

**Віталь ГАРБУЗАЎ, фота аўтара.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Суддзя атрымаў 13 гадоў калоніі*

*Вярхоўны суд Беларусі прызнаў былога намесніка старшыні суда Савецкага раёна Гомеля Юрыя Жорава вінаватым у атрыманні хабару і падрыхтоўцы да злачынства.*

Ён атрымаў 14 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ўзмоцненага рэжыму, канфіскацыяй усёй маёмасці, пазбаўленнем права займаць пасады ў праваахоўных органах і судах тэрмінам на 5 гадоў. Але ў сувязі з амністыяй суд скараціў тэрмін пакарання да 13 гадоў.

Акрамя таго, суд пастанавіў спагнаць з хабарніка ў даход дзяржавы больш як 11 млн рублёў.

Прысуд не падлягае абскарджванню і апратэставанню.

Як паведаміла журналістам прэс-сакратар Вярхоўнага суда Юлія Ляскова, па гэтай справе былі затрыманы двое іншых абвінавачаных — індывідуальны прадпрымальнік па аказанні юрыдычных паслуг і звычайны індывідуальны прадпрымальнік. У сувязі з тым, што яны пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, крымінальная вытворчасць супраць іх спынена, яны вызвалены ад крымінальнай адказнасці.

Дарэчы, гэта не першая гучная справа высокапастаўленых чыноўнікаў у Гомелі за апошні час. Раней у Гомелі арыштавалі **Віктара Банчука** — першага намесніка старшыні абласнога выканкама і **Віктара Трызну** — намесніка старшыні. Абодвух абвінавачваюць у злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі. Іх арышту папярэднічаў прысуд былому старшыні гомельскага гарвыканкама **Віктару Піліпцу** і пакаранне ягоных памагатых за махінацыі з кватэрамі. За краты трапіў, паквапіўшыся на хабар, намеснік начальніка крымінальнай міліцыі аблвыканкама палкоўнік **Вячаслаў Іваненка.**

Акрамя таго, у ліпені ўслед за арыштам Юрыя Жорава страцілі пасады яшчэ паўдзясятка суддзяў Гомеля. Фармальна яны звольнены па ўласным жаданні.

СУД!

## *Напалохалі?*

*Учора Наваполацкі суд вынес рашэнне па справе мясцовага грамадскага актывіста Яўгена Парчынскага — ён аштрафаваны на 7,5 мільёна рублёў.*

**Яўгену Парчынскаму** інкрымінавалі падзеі, якія адбыліся ў 2009—2012 гадах, але ў суд яны былі перададзены толькі цяпер. Актывіста абвінавачвалі па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса — быццам бы ён быў пасрэднікам у атрыманні фальшывых бальнічных і позваў у міліцыю для трэціх асоб.

Сам Парчынскі адмаўляў абвінавачванні. Па яго словах, некаторыя знаёмыя на самай справе прасілі дапамагчы трапіць на прыём да ўрачоў. Улічваючы журналісцкую дзейнасць, з многімі дактарамі той быў знаёмы. Некаму прызначалі лячэнне, нехта ішоў на бальнічны... А пасля знайшліся людзі, якія далі супраць Яўгена паказанні. Пяць гадоў таму гэтую крымінальную справу спынілі, а вось на пачатку гэтага года ўсё пайшло па новым крузе. Раптам усплылі і справа, і сведкі...

Яўген Парчынскі кажа, што, магчыма, справу завялі з-за яго актыўнай грамадска-палітычнай дзейнасці.



*"У 2006 годзе ў сваім рэгіёне я ўзначальваў перадвыбарны штаб экс-кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Казуліна,* — распавядае ён. — *На наступных выбарах працаваў у штабах Мікалая Статкевіча і Дзмітрыя Уса, мая група дапамагала ў зборы подпісаў і агітацыі кампаніі "Гавары праўду!". У 2014 годзе ўдзельнічаў у мясцовых выбарах, але не быў зарэгістраваны камісіяй у якасці кандыдата. Ды і прэзідэнцкія выбары не за гарамі — самы час напалохаць..."*

Пракурор прасіў асудзіць Парчынскага на 3 гады зняволення з адтэрміноўкай на 2 гады. У выніку суд абмежаваўся штрафам у 7,5 мільёна рублёў. Актывіст дадае, што гэта для яго не самы дрэнны зыход, таму абскарджваць рашэнне суда ён не будзе.

**Алесь СІВЫ.**

РЕГИСТРАТУРА

# «Недостойная оплата труда врача порождает недостойную медицинскую помощь»

*В июне, когда отмечался День медицинских работников, министр здравоохранения **Василий Жарко** пообещал: "К осени мы достойно повысим зарплату, и она будет значительно выше, чем теперешняя".*

*С 1 сентября врачам и медработникам действительно повысят оклады. Как заметил замминистра здравоохранения **Вячеслав Шило**, с учетом апрельского и сентябрьского повышений окладов медработники получат прибавку к зарплате от 1,5 миллиона рублей.*

*Мы решили спросить у самих врачей, довольны ли они таким повышением?*

**Тамара ТЯБУТ, *врач-кардиолог, доктор медицинских наук, профессор кафедры кардиологии и ревматологии БелМАПО:***

— Я, конечно, приветствую повышение зарплаты. Лучше что-то, чем ничего. И я понимаю, что проблем в государстве много. Но, на мой взгляд, такое повышение зарплат проблему в отрасли не решит, не сократит отток кадров из медицины.

...Напротив меня сидит врач-кардиолог инфарктного отделения. Знаете, какая у нее зарплата? Чуть больше четырех миллионов. И это на полторы ставки. Даже если с первого сентября прибавка к ее зарплате составит миллион — это разве достойная, адекватная труду врача зарплата? Сегодня зайдите в магазин, купите пакет молока, хлеб, пачку творога и пару сосисок — это уже 100 тысяч. А билеты в театр, филармонию? Если к нам приезжают замечательный оркестр Спивакова, Элтон Джон со своей программой — цены на билеты начинаются от 700 тысяч. Врачу они по карману? А врач должен развиваться, он носитель знаний, интеллигентности, культуры... Разве может врач построить себе квартиру? Замечательно, что в Минске открыли общежитие семейного типа для врачей и медработников. Но достойно ли это врача — жить в общежитии? Ведь именно от его работы зависит жизнь других людей. Врач не может работать на поточной линии. За 40 лет моей работы в здравоохранении могу сказать, что клиническая картина многих болезней изменилась. Часто приходится думать над пациентом с сочетанной измененной патологией днями, а то и месяцами. Может ли это сделать врач, у которого за дежурство поступает 15—20 пациентов, а дежурства — сутки через сутки? Потому что нужно строить квартиру, учить детей, дети должны развиваться, ходить в секции, кружки, изучать иностранные языки, а за все это нужно платить. К сожалению, квалификация врача обратно пропорциональна частоте его дежурств (законы Мёрфи).

На мой взгляд, у врача должен быть определенный социальный пакет — с квартирами, зарплатами, отпусками, лечением, снижением нагрузки. Самое лучшее новое — это хорошо забытое старое. До войны были больничные кассы — пациент в открытую мог поблагодарить полюбившегося врача, а тот, заплатив налоги, спокойно жить. В 1980-е годы в Минске возникла ситуация, когда город практически остался без участковых терапевтов. Два шага привели к тому, что все ставки были заполнены. Участковым врачам дали служебные квартиры, которые через 15 лет могли перейти в собственность врача, и разукрупнили участки. Кроме того, давали надбавки за 5 лет работы на одном участке. На какое-то время проблема была решена. Сегодня в Минске строится столько жилья! По информации некоторых печатных изданий, городу не хватает около 100 участковых терапевтов. Неужели столица Беларуси не может дать квартиры врачам на льготных условиях?!

Мне кажется, данная проблема требует более глобального, системного подхода, использования прежнего опыта, а самое главное — адекватной экономической проработки — что мы тратим, когда 7 лет готовим человека к практической работе, и что теряем, когда он уходит из медицины.

**Олег РУММО, директор РНПЦ трансплантации органов и тканей, доктор медицинских наук:**

— Я приветствую всякое повышение заработной платы врачам.

**Александр ВОЛЧАНИН, фельдшер "Скорой помощи":**

— Конечно, спасибо, что нам повышают зарплату. Хотя и получим мы эту прибавку только в октябре. Так что это скорее компенсация за рост цен.

Я работаю сегодня на двух "скорых": ставка в Жодино и полставки в Минске. Специально попросился на работу в столицу, чтобы сравнить их условия работы и наши — на периферии. И хочу сказать, что врачам "Скорой помощи" в Минске зарплату надо повышать не на 50%, а как минимум в 2 раза. У них очень сложный адский труд!

С учетом совмещения я сегодня получаю 7 миллионов. Если бы жил один, возможно, хватало бы. Но у меня семья, двое детей, внук. Сейчас сидим в кредитах, а вы знаете, какие у нас ставки — берешь 10 миллионов, а возвращаешь 50!

**Екатерина ПОЛЕЩУК, участковый терапевт:**

— Не хочу обсуждать эту тему. В июле нам повысили оклады. Я работаю на ставку, веду один участок. Общий медицинский стаж — 30 лет, участковый — 20. Знаете, какая у меня зарплата? 4,5 миллиона. И это еще администрация всевозможные доплаты дает: за интенсивность и т.д.

Можно прожить сегодня за 4,5 миллиона?!

**Леонид ПУТЫРСКИЙ, маммолог, доктор медицинских наук, профессор:**

— Повышение — это хорошо. Лучше, когда дают, чем отбирают. Но, конечно, медики в Беларуси получают катастрофически мало. И сентябрьское повышение — это, конечно, не то, что хотели бы получить врачи.

Мне приходилось работать в Германии, Франции, США. Когда я озвучивал зарплаты белорусских медиков, мне не верили. Да что там Германия и США! Недавно у меня была на приеме выпускница чешского медуниверситета. Она чешка, начала работать, причем ей еще не доверяют пациентов, скорее это, как наша интернатура. Но такой специалист в Чехии уже имеет зарплату 900—1000 евро. Возможно, там уровень расходов выше. Но все равно, в нашей стране такую зарплату не имеет даже ведущий специалист.

Хочу отметить: в развитых, цивилизованных странах не существует такого понятия, как совмещение. Там врач не думает, где ему еще подработать после приема в поликлинике или больнице. Поэтому там и уровень оказания помощи выше. Мне бы очень хотелось, чтобы и наши врачи имели такие оклады, которые позволяли бы им работать только на одном месте. 10 миллионов — это уже было бы достойно. Потому что когда сегодня говорят, что врач зарабатывает 7—8 миллионов, то надо добавлять, что это с учетом совмещений, доплат за дежурство, высокотехнологичных операций, ученой степени и т.д. Это не оклад.

**Инесса ДРОБЫШЕВСКАЯ, бывший министр здравоохранения:**

— Оклад — это оценка государством труда данного работника, уровня его квалификации, его знаний и вложенных усилий, чтобы эту специальность получить. И система, которая вынуждает врача искать совмещение, работать дополнительно, чтобы иметь, заметьте, невысокий доход, а такой, который позволяет всего лишь нормально жить, — неправильная.

Сегодня наши врачи вынуждены искать совмещение, бегать по клиникам. Кому от этого лучше? Не врачам и не пациентам. Недостойная оплата труда врача порождает недостойную медицинскую помощь.

Последнее повышение зарплаты медикам можно сравнить с попыткой реанимировать пациента, сохранить ему жизнь, а не с лечением, направленным на то, чтобы вернуть пациента к качественной жизни.

К СЛОВУ

## *Кому и как повысили?*

Согласно постановлению Совмина, с 1 сентября увеличатся тарифные ставки для участковых врачей-терапевтов и врачей-педиатров, врачей общей практики, а также врачей-специалистов, оказывающих скорую медицинскую помощь, на 60%. Для участковых медсестер, помощников врачей по амбулаторно-поликлинической помощи, медсестер общей практики, фельдшеров, медработников фельдшерско-акушерских пунктов и медицинских работников, имеющих среднее медицинское образование, оказывающих скорую медпомощь, повышение составит 50%. На 40% будут увеличены тарифные ставки санитаркам скорой медпомощи.

Остальным врачам-специалистам тарифные ставки повысятся на 50%, медработникам, имеющим среднее специальное медицинское образование и не указанным выше, — на 40%, младшим медицинским сестрам по уходу за больными, няням, сестрам-хозяйкам, санитаркам — на 30%.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

СІТУАЦЫЯ

# «Нас выкідваюць на вуліцу...»

*На гэтым тыдні судовыя прыставы ў чарговы раз спрабавалі выселіць са сталічнай кватэры сям'ю настаўніцы Святланы Бутрым, у якой яна пражыла пяць гадоў.*

Наша газета падрабязна распавядала аб гэтай "кватэрнай гісторыі" ў нумары за 1 жніўня 2014 г. (*"Александр Григорьевич, помогите!"*).

Калі коратка распавесці сутнасць канфлікту, то справа ў наступным. **Барыс Аляксандравіч Нікалайчык**, бацька **Святланы Бутрым**, у свой час атрымаў кватэру па дамове найма-продажу з прадстаўніком уласніка — Міністэрствам транспарту і камунікацый Беларусі (у асобе ААТ "Беларускае марское параходства"). Пазней высветлілася, што юрысты арганізацыі, дзе працаваў Барыс Аляксандравіч, не пабывалі з дакументамі ў натарыуса, і ў лістападзе 2009 г. суд Кастрычніцкага раёна Мінска прызнаў дамову несапраўднай. Па рашэнні суда сям'я павінна выселіцца з кватэры без прадастаўлення іншага памяшкання.

*"Мы за ўласныя сродкі дабудоўвалі кватэру, патрацілі каля 15 тысяч долараў,* — распавядае Барыс Аляксандравіч. — *Вярнулі грошы нам без уліку інфляцыі — атрымалася ўжо 9 тысяч. Усім зразумела, што тут не было нейкага наўмыснага завалодвання жыллём, і сёння з-за нейкай фармальнай пячаткі нас выкідваюць на вуліцу. Зараз мы хочам толькі аднаго — каб нам прадалі гэтую кватэру. У Мінгарвыканкаме заявілі, што продаж дзяржаўнай маёмасці (а зараз кватэра такой і лічыцца) ажыццяўляецца толькі з дазволу кіраўніка краіны. Таму і хочам, каб нас не чапалі да канчатковага рашэння".*

Тым часам на гэтым тыдні судовыя прыставы, якія ў чарговы раз прыходзілі высяляць сям'ю з кватэры, былі катэгарычныя.

*"Ёсць рашэнне суда, якое неабходна выконваць",* — заявілі яны. — *У астатнім разбірайцеся без нас".*

Супрацьстаянне доўжылася на лесвічнай пляцоўцы некалькі гадзін, але ў рэшце рэшт усе прыйшлі да невялікага кампрамісу — каб не было прымусовага высялення, да раніцы 1 верасня сям'я павінна сама з'ехаць з кватэры.

Ці пачуе кіраўнік краіны просьбу простай сталічнай настаўніцы аб дапамозе? Як кажуць: дажывём да панядзелка...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



